# ЖЭЎЖЫК

ЗАБАЎЛЯЛЬНЫ ЧАСОПІС ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ АД 6 ГОД | № 4 ЛІСТАПАД 2019



Нашы рэкі і вадаёмы: міфічныя і рэальныя



Легенды старога млына

Адкуль ракавінкі ў рэках?



# У нумары:

*Вітаю, шаноўныя чытачы!*



Хачу загадаць вам загадку:

- яна магла трапіць на нашу планету з ледзянымі астэроідамі;
- яна з'яўляецца сапраўднай скарбніцай мінералаў;
- яна можа прасачыцца ў любую шчыліну і сцягнуцца, як гума, якую з сілаю расцягнулі і адпусцілі;
- яна існуе адразу ў 3 фізічных станах: газападобным, вадкім і цвёрдым.

*Што гэта?*



Вядома ж, звычайная ВАДА!

Але ж настолькі важная для ўсёй нашай планеты, бо без вады не можа існаваць усё жывое. Да таго ж, яна з'яўляецца сапраўдным прыродным скарбам Беларусі.

Наша водная сістэма вельмі разнастайная: вялікая колькасць рэк, азёр, балот, вадасховішчаў, сажалак і ручаёў. А на поўначы краіны ёсць нават цэлы край, што завецца Паазер'ем (за мноства азёр, што там маюцца). Цяпер зразумела, чаму Беларусь нярэдка называюць сінявокай, праўда?

З аднаго боку, водная стыхія блізкая і добра вядомая ўсім. Але, з другога боку, хавае ў сабе багата цікавостак і нечаканасцей.

***Знаёмцеся з новым нумарам часопіса і пераканайцеся ў гэтым самі!***

# Нашы рэкі і вадаёмы:





Нёман (фота: Віктар Малышчыц)

Думаецца, што хаця б раз у жыцці многія беларусы шкадавалі: "Эх, няма ў нас мора. Яно ж такое прыгожае, цёплае, казачнае!"
Але давайце зірнём навокал. Мы ж маем такія вялікія водныя скарбы: 21 тысячу рэк, 10 тысяч азёр, 9 тысяч балот. А таксама безліч народных казак і паданняў, звязаных з імі.

У даўнія часы рэкі мелі выключнае значэнне ў жыцці беларусаў: кармілі рыбай, служылі дарогамі, абаранялі ад ворагаў. Аднак пры гэтым у нашых народных песнях узгадваецца толькі адна рака з рэальнай назвай – Дунай. Але працякае ён за тысячы кіламетраў ад Беларусі. Чаму ж тады менавіта гэту раку так часта апявалі нашы продкі?

# міфічныя і рэальныя



Браслаўскія азёры (фота: Віктар Малышчыц)

У навукоўцаў ёсць вось якое тлумачэнне гэтаму. Само слова "дунай" у некаторых мовах абазначае проста раку. Таму, хутчэй за ўсё, і нашы продкі спявалі менавіта пра свае, мясцовыя рэкі.
Цікава яшчэ, што назвы некалькіх вялікіх еўрапейскіх рэк маюць сугучныя з Дунаем назвы: Днестр, Дняпро, Дон.
Дняпро, дарэчы, з'яўляецца самым даўгім у Беларусі і трэцім у Еўропе Даўжыня яго ў межах нашай краіны – амаль 700 км.
Беларускае паданне ажыўляе Дняпро і робіць чалавекам, сынам магутнага валадара Рыдана. Зайздросныя суседзі скралі ў яго золатаагністую карону. І Дняпро з братам Сожам (так сапраўды завецца левы прыток Дняпра) выправіліся ў пагоню за злодзеямі, але не вярнуліся да бацькі ператварыліся ў рэкі.



Возера Асвейскае і востраў на ім (фота: В. Малышчыц)



Возера Свіцязь (фота: Віктар Малышчыц)

А вось азёры ў беларускім фальклоры нярэдка з'яўляюцца на месцы, дзе сышлі пад зямлю гарады альбо цэрквы (у рэальным жыцці такія вадаёмы часта носяць назву Святое). Рамантычную баладу з падобным сюжэтам на аснове народнага падання склаў сусветна вядомы паэт Адам Міцкевіч. Ён прысвяціў яе роднаму возеру Свіцязь (Навагрудскі раён).
Старыя людзі таксама расказвалі, што тут жывуць красуні-русалкі, якіх клічуць свіцязянкамі.
Нібыта гэта душы жанчын, якія жылі ў горадзе, што быў на месцы возера. У час ваеннай небяспекі яны сталі маліцца з просьбай пазбегчы зганьбавання і горад быў затоплены. Няма чаго дзівіцца, што столькі казак і вершаў прысвечана гэтаму возеру.
Яно насамрэч неверагодна прыгожае і таямнічае! Свіцязь мае акруглую форму, з усіх бакоў яе акаляе смарагдавы лес.



Возера Доўгае (фота: Віктар Малышчыц)

Тут сустракаецца нямала рэліктавых раслін, якія захаваліся на Зямлі са старажытнасці ў нязменным выглядзе.
Аднак самымі загадкавымі жыхарамі возера з'яўляюцца не русалкі-свіцязянкі, а водарасць тэтрадыніум яванікум, якую яшчэ можна знайсці толькі на востраве Ява (Індыйскі акіян), ды малюск планорбіс стэльмахтыкус, што жыве ў азёрах Францыі, Бельгіі і Германіі.

Пра Свіцязь сказалі ўжо дастаткова. Не будзем жа забывацца і на іншыя беларускія "азёры-рэкардсмены". Найбольшую плошчу ў нашай краіне мае Нарач (Мядзельскі раён).
Яе даўжыня складае амаль 13 км, а шырыня – амаль 11 км. І каб абысці ўвесь вадаём, трэба пераадолець ажно 40 км! А самае глыбокае ў нас возера з дзіўнай назвай Доўгае (Глыбоцкі раён). Там можна даць нырца пад ваду ажно на 54 м.

# Дапамажы рыбкам даплыць да свайго возера



# Шыфроўка

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| с | т | б | д | р | п | м | т | н | г | в | к | ц | ф | ч | с | н | т | б | д | ж | х | п | в | л | н | г | й | ф | ч | м | т | ц | н | л |
| ж | в | п | с | н | г | л | д | х | ж | з | б | п | л | в | с | м | р | н | г | ч | с | в | ц | ф | р | п | т | й | в | т | б | л | п | к |
| г | с | ч | п | н | г | ц | ф | б | д | р | п | г | н | с | п | н | г | ш | д | в | р | н | г | л | т | м | с | ц | к | ч | ф | б | д | х |
| к | ц | ф | т | р | г | ш | й | с | к | п | б | г | к | п | л | ж | х | т | с | м | к | н | й | в | к | н | л | т | б | д | з | ч | с | п |
| н | г | к | р | л | ж | б | м | н | у | ш | й | п | у | к | ю | а | і | к | ё | а | ю | т | ш | а | в | т | ш | г | к | д | х | б | м | с |
| в | ч | й | н | г | р | с | л | к | о | я | п | ю | а | т | я | в | е | ч | а | б | о | й | о | х | е | м | р | г | к | ш | д | й | б | ж |
| х | в | к | н | р | л | д | б | м | а | в | і | й | о | т | а | л | о | п | у | і | ю | р | у | б | я | с | к | й | ц | т | л | д | ш | н |
| т | п | к | в | ц | м | т | н | к | е | д | н | м | і | ц | у | б | ю | с | о | р | л | ш | і | е | ю | с | й | н | г | д | б | п | н | г |
| ш | с | т | б | д | й | в | т | б | і | н | г | г | я | н | о | ш | і | ц | ы | н | г | м | я | т | у | б | н | д | ч | с | н | т | б | д |
| т | ж | в | п | с | ц | к | ч | ф | а | х | ж | й | ю | р | а | ы | я | х | я | х | ж | ж | о | б | а | т | й | п | т | б | с | т | б | д |
| б | г | с | ч | п | т | б | д | з | б | б | д | ц | ч | ч | с | н | т | б | д | б | д | ш | т | с | м | д | ц | к | ч | ф | ж | в | п | с |
| ф | к | ц | ф | т | г | к | д | х | м | с | к | т | р | с | м | т | ц | л | ж | с | к | к | ц | ч | м | ш | т | б | д | з | г | с | ч | п |
| з | п | л | ш | к | ч | с | н | т | б | д | с | п | д | х | к | ц | ф | т | з | ч | ц | л | г | м | г | т | г | к | д | х | к | ц | ф | т |
| х | я | а | о | й | а | я | э | п | я | о | а | ф | м | ю | к | ц | й | о | ы | э | т | к | а | ю | о | м | ё | у | ю | н | т | а | с | т |
| д | е | н | г | к | е | м | л | к | ё | в | ю | з | ы | к | о | л | б | я | й | і | т | х | у | ф | е | ж | з | а | н | г | ё | б | о | б |
| т | у | в | ч | й | э | ё | і | п | і | ё | у | х | і | п | я | н | ш | е | з | ю | б | п | ё | м | о | в | ф | у | х | ж | ы | л | і | ф |
| м | і | х | в | к | у | х | ц | ч | о | т | б | д | е | э | ё | р | б | у | м | а | ж | с | э | х | а | з | ш | ё | б | д | я | ю | э | з |
| п | ё | т | п | л | о | т | й | п | ю | ц | м | ж | я | х | а | м | я | ю | а | ё | о | ж | я | й | я | к | н | э | с | к | а | п | у | х |
| л | ю | ш | с | т | я | ю | а | к | у | ж | ц | й | ю | т | ы | л | і | к | ц | ш | э | н | у | ё | э | п | г | е | д | х | э | ж | ё | д |
| с | т | б | д | н | г | й | в | т | б | с | т | б | д | т | ц | н | л | с | т | б | д | г | с | н | т | б | т | ц | н | л | й | в | т | б |
| ж | в | п | с | х | ж | ц | к | ч | ф | ж | в | п | с | б | л | п | к | ж | в | п | с | д | с | м | р | н | б | л | п | к | ц | к | ч | ф |
| г | с | ч | п | б | д | т | б | д | з | г | с | ч | п | ф | б | д | х | г | с | ч | п | д | п | н | г | ш | ф | б | д | х | т | б | д | з |
| к | ц | ф | т | с | к | г | к | д | х | к | ц | ф | т | з | ч | с | п | к | ц | ф | т | л | л | ж | х | т | з | ч | с | п | г | к | д | х |

Лічыцца, што ў старажытнасці на тэрыторыі Беларусі існавала сапраўднае мора. Разгадай таемнае пасланне і даведаешся, як яго называюць. Зафарбуй галосныя літары





Намалюй яшчэ некалькі рыбак у акварыуме



# Цёплыя і халодныя цячэнні

Калі ты стаіш у возеры ці стаўку, ты можаш заўважыць, што вада цяплей на паверхні, чым на дне.

Калі ты занырнеш глыбей, то адчуеш, што вада яшчэ халаднейшая.

Зрабі наступны эксперымент і зразумееш, чаму гэта адбываецца!



## Для эксперымента нам спатрэбіцца:



+ харчовы фарбавальнік (сіні і чырвоны)



+ празрыстая міска



2 шклянкі



+ вада



+ кавалак шчыльнага кардону

1. Налі ў адну шклянку вельмі гарачай вады, а ў другую шклянку – халоднай вады





2. Дадай сіні харчовы фарбавальнік ў халодную ваду, а чырвоны – у гарачую ваду



3. Пастаў кавалак кардону пасярэдзіне місы так, каб ён шчыльна прылягаў да сценак.

У адну палову налі халодную ваду, у другую – гарачую.



5. Хутка і акуратна прыбяры кардон. Ты ўбачыш, што халодная вада апусціцца ўніз, а гарачая падымецца ўверх



## ВЫНІК

Як цёплае паветра падымаецца над халодным, так і цёплая вада падымаецца над халоднай і робіць паверхню возера цяплей, чым дно. Цёплая вада лягчэй і менш шчыльная, чым халодная, таму і падымаецца ўверх

# Загадкі




Паспрабуй здагадацца, пра якія з'явы, прадметы і жывыя істоты, звязаныя з вадой, ідзе гаворка ў наступных загадках:

Сёння паразгадваем з вамі беларускія народныя загадкі. Ведаеце, што гэта не проста "зашыфраваныя" апісанні нейкіх прадметаў, жывых істот ці з'яў, а наш сапраўдны літаратурны скарб! Бо загадкі з'явіліся на свет вельмі-вельмі даўно.
І ў паэтычнай форме яны адлюстроўваюць усё жыццё нашых продкаў: побыт, працу, заняткі, жывёльны і раслінны свет.
А яшчэ гэта цудоўная зарадка для мазгоў, якая добра развівае вобразнае мысленне.
Не дарэмна ж у даўнія часы загадкі нават служылі сродкам выпрабавання разумовых здольнасцей у дарослых людзей. Напрыклад, у вайсковых ці пасольскіх справах.

*1. Без голасу вые,*
*без рук абрусы сцеліць.*

*2. Закіну палку – заб'е не галку,*
*здыму – не пер'е,*
*з'ем – не мяса.*

*3. Ляцелі шэрыя гусі,*
*накідалі белага пуху.*

*4. На той свет ідзе – скача,*
*з таго свету ідзе – плача.*

*5. Я – вада і па вадзе плаваю.*

*6. Зімой расце коранем угору,*
*а вясной паміраe. Хто адгадае?*

*7. На дварэ – гарою,*
*а ў хаце – вадою.*

*8. Мяне ўсе просяць,*
*мяне ўсе чакаюць,*
*а як толькі з'яўлюся,*
*хавацца пачынаюць.*

# Рэбус






# Блытанка

У словах літары паблыталіся месцамі.
Паспрабуйце пераставіць іх назад, прачытайце тое, што выйшла,
і знайдзіце адно лішняе слова ў кожным шэрагу.

1. авад, рома, кара, лажу, баен
2. рокляп, жджод, лезава, жамі, цевер
3. ватар, упс, багарта, лекісь, сакв

Дзе знаходзяцца рэчкі?
Пастаў нумар на карце правільна
1. Нёман
2. Прыпяць
3. Заходняя Дзвіна
4. Дняпро
5. Бярэзіна



# Легенды старога млына



Беларускія млыны ва ўсе часы былі ахутаныя нейкай таямніцай.
Пэўна, самая вядомая гісторыя пра асілка Менеска, які быццам бы быў млынаром на Свіслачы і легендарным заснавальнікам цяперашняй сталіцы...
Нашым продкам падавалася, што менавіта нячысцікі дапамагаюць круціць кола млына ды малоць муку.
І няважна, у які час узводзіўся такі будынак: ці амаль тысячу год таму, як пры Менеску, ці ў 20-м стагоддзі. Легенды вакол млыноў будуць толькі множыцца!



Дах

Дах зафальцаваны аркушамі бляхі – тонкага ліставога жалеза.

Якраз так адбылося і з вадзяным млыном у Оршы (Віцебская вобласць), якому хутка споўніцца 120 год.

Пра яго вядома, як найменш, 4 паданні.

Раней людзі казалі, што падмурак будынка акроплены крывёю, што вакол бегае страшная чорная свіння ці па вечарах з-пад моста кліча да сябе маладых хлопцаў русалка...

Цяпер жа ў млыне па начах рыпяць масніцы*, як быццам нехта ходзіць, але нікога там не можа быць у такі час...



Цокаль (прымурак)

Цокаль (прымурак) – ніжняя частка цаглянай ці каменнай пабудовы. У аршанскага млына ён дастаткова высокі, каб адвесці сцены ад вады.

Прыгожы мураваны млын пабудавалі ў Оршы на месцы старога драўлянага ў 1902г. на канале, што злучае рэкі Аршыцу і Дняпро.
І гэта быў не абы-які млын, а адзін з самых прыбытковых і буйных ва ўсёй Магілёўскай губерні. Ён з'яўляецца помнікам прамысловай архітэктуры: зроблены з чырвонай цэглы, спалучае ў сабе прастасць і практычнасць.



Вокны

Вокны ў сценах незвычайнай, выцягнутай формы і круглае акенца пад дахам, хутчэй за ўсё, зроблены проста для дэкору (упрыгажэння) будынка.

Аршанскі млын працаваў па прамым прызначэнні да 1960г., пакуль у горадзе не з'явіўся сучасны млынкамбінат.



Ад старога будынка да нашага часу захаваліся сцены і частка апорных бэлек.

У 1991г. пачалася рэканструкцыя гэтага помніка, а ў 1995г. тут адкрыўся цікавы этнаграфічны музей.

Вадзяныя млыны бываюць гарызантальныя і вертыкальныя.

Аршанскі адносіцца да апошніх, бо мае кола, на якое падае вада. Сіла ад гэтага падзення прыводзіць у рух лопасці на коле.

У сваю чаргу яны круцяць вось млына, а яна рухае механізм, што перамалывае зерне ў муку.

Штучна створаны канал пад млынам сёння асушаны - і русалцы там ужо няма дзе схавацца :)...



Аднак ажурны цагляны мост над ім захаваўся таксама добра.

Абавязкова прыязджайце ў Оршу паглядзець на ўсё гэта і наведайце цікавы этнаграфічны музей!

*Масніцы - дошкі падлогі.




Матэрыял падрыхтаваны з дапамогай архітэктара Зміцера Мурашкі.

гульня

# Хадзілка "Плывём з варагаў у грэкі"

Такую назву меў самы важны гандлёвы шлях, што праходзіў праз тэрыторыю сучаснай Беларусі ў 9-12 стагоддзях. Ён звязваў Паўночную Еўропу з Візантыяй, Балтыйскае (яго яшчэ называлі Варажскім) мора з Чорным.
Адно з адгалінаванняў гэтага воднага шляху праходзіла праз беларускія землі: з Балтыйскага мора ў нашы рэкі Заходнюю Дзвіну, Дняпро і Бярэзіну. Гэта была вельмі складаная і цяжкая дарога, якая вымагала вялікай рызыкі, значнага часу і добрай фізічнай падрыхтоўкі.




Часам судны і чаўны
нават перацягвалі па сушы.
Для гэтага выбіралі месца
найбольшага збліжэння рэк,
якое называлася волакам.

Такім чынам,
мы стартуем з Полацка
ўніз па Заходняй Дзвіне
да Дняпра.
Хто ж з купцоў-варагаў
першым трапіць у Оршу?

Вы забыліся свой тавар (мёд, футра і воск) у Полацку, таму вярніцеся назад.
Хутка прыйдзецца цягнуць карабель волакам, пераскочце наперад.
Карабель сеў на мель. Вяртайцеся назад на 3 крокі.

словаловы

# Словаловы

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| В | А | Д | А | Р | К | А | О | К | А | Я | Р | Ж | А | А |
| В | Е | Н | С | У | Л | А | Т | Г | Л | Б | Э | Ж | У | С |
| О | Ч | А | Х | С | А | З | А | Т | Ы | З | У | Р | Ш | Э |
| Л | О | Т | О | В | І | Ш | Л | Ы | Б | І | І | А | Н | Н |
| А | Б | Г | Л | Е | Й | Ч | П | Ы | Н | Н | Я | К | Е | П |
| П | Р | Ы | Т | О | К | А | К | Р | І | Ц | А | А | Ь | Л |
| В | Х | В | К | У | П | В | Н | Ч | А | Р | А | Н | Н | Ы |
| Ь | А | А | Н | Н | А | А | А | Р | Э | Ё | М | А | Н | С |
| Ц | К | Л | Е | А | В | Д | Б | Я | Ж | Н | Н | А | Ж | А |
| С | В | Я | А | Д | Д | А | А | Д | Н | А | Я | Л | К | А |
| А | А | П | А | Р | К | С | П | О | Р | А | Г | Н | Н | А |
| К | А | М | Б | А | Л | Е | Я | М | Я | Б | А | А | В | Т |
| Д | Н | І | Б | Я | З | І | А | К | Б | Р | А | Р | О | Н |
| А | У | К | А | Р | Э | Н | А | Л | А | У | Б | Е | З | А |
| В | Ц | К | Л | О | Д | З | Е | Ж | П | Ц | І | Ч | З | Ф |

## Знайдзі словы сярод літар

Словы можна прачытаць па гарызанталі, вертыкалі,
злева направа, справа налева.
Будзь вельмі ўважлівы!
Калі знойдзеш усё, складзі слова з літар, якія засталіся.
Паспрабуй не карыстацца падказкамі!

Аквапарк, асушэнне, багна, балея, балота, Бярэзіна, бурбалка, вада, вадаспад, вадасховішча, вадкасць, возера, глей, глыбіня, затока, калодзеж, крыніца, купанне, мора, набярэжная, Нарач, Нёман, плынь, плыт, прыток, Пціч, рака, русалка, сажалка, узбярэжжа, фантан, хваля, цунамі, човен

# Дык ці існавала ў нас калісьці мора?

2500 год таму старажытнагрэчаскі гісторык Герадот напісаў пра вялікі вадаём, што нібыта размяшчаўся на тэрыторыі нашага Палесся. Гэта, між іншым, была першая пісьмовая прыгадка пра тэрыторыю сучаснае Беларусі і яе прыроду. З таго часу і сталі клікаць гэты напаўміфічны вадаём "морам Герадота".



Герадот
(грэч. Herodotos)
(каля 485 — каля 425 гг. да н.э.)



Прыпяць (фота: Віктар Малышчыц)

Існаванне чагосьці такога - ці возера, ці балота вялізнага памеру – у раёне Брэсцкай вобласці і на ўсход пацвярджаюць і мапы 16-17 стагоддзяў. Там гэты вадаём носіць ужо назву Сармацкага возера (ад агульнай назвы Усходняй Еўропы – Сарматыя).

*Дык ці існавала тое "мора" ці возера насамрэч?*

Хутчэй за ўсё так. Сэрцам гэтага вялізнага вадаёма была палеская рака Прыпяць, даўжынёю 761 км, якую жывілі ажно 120 рэк і мноства ручаёў.

Нават цяпер у час паводкі ці моцных дажджоў гэтая "беларуская Амазонка" разліваецца на 30 кіламетраў. І доўжыцца гэты працэс ажно 4 месяцы. Мяркуючы па ўсім, з сярэдзіны 16 стагоддзя "мора Герадота" стала перасыхаць і забалочвацца.
Але калі б гэты працэс прыпыніўся, то цяпер мы маглі б мець велізарны вадаём ад Пінска да Нясвіжа, і ад Бабруйска да Берасця.
І супрацьлеглы бераг гэтага возера хаваўся б за даляглядам...

Шкада, што няма гэтага, праўда?

Але на яго абшарах засталіся да нашага часу прыгожыя беларускія рэкі, азёры і балоты.



Прыпяць (фота: Віктар Малышчыц)

Спытай Жэўжыка



Вітаю, Жэўжык!
Мне цікава, чаму вадкія адкіды заводаў зліваюцца ў вадаёмы і як гэтага пазбегнуць?

Света Радзюк, 9 год



Насамрэч сцёкавыя воды спачатку павінны прайсці складаны працэс ачышчэння ці на самім прадпрыемстве, ці ў спецыяльных гарадскіх збудаваннях.

І толькі пасля высокаэфектыўнай ачысткі і дэзінфекцыі (знішчэння ўзбуджальнікаў хвароб) вада з прадпрыемстваў можа накіравацца ў рэкі ці азёры.
Прадухіліць выліванне вадкіх адкідаў у прыроднае асяроддзе можа паўторнае выкарыстанне ачышчаных водаў у вытворчасці.






Жэўжык, я хачу даведацца, чаму вада вадкая?

Каця Радзюк, 6 год

Пачнём з таго, што гэтае рэчыва можа існаваць у трох станах: цвёрдым, вадкім і газападобным. Але пры звычайнай сярэдняй тэмпературы вада заўсёды вадкая. Цікава, што акурат гэты стан з'яўляецца прамежкавым між цвёрдым і газападобным.
У цвёрдых рэчывах ёсць строга ўпарадкаваная структура ўсіх іх часцінак (атамаў і малекул). У газах, наадварот, - поўны хаос (беспарадак).
А ў вадкім стане часцінкі вады размяшчаюцца на невялікай адлегласці і адносна ўпарадкаваныя, аднак з часам яны аддзяляюцца адна ад адной. Так хутка знікае ўпарадкаваная структура.

І яшчэ паколькі вада складаецца з атамаў кіслароду і вадароду, гэта надае ёй уласцівасці цякучасці: гэта значыць, яна займае форму любой ёмістасці, у якой знаходзіцца. Вось таму вада і можа ліцца, цячы і капаць.



Адкуль ракавінкі ў рэках, і чаму ў іх няма жэмчугу?

Кіра Аксёнава, 6 год





Кіра, твае пытанні вельмі ўзаемазвязаныя, таму дам на іх адзін адказ.
Сапраўды, ракавінкі,
ці двухстворкавыя малюскі, з'яўляюцца звычайнымі жыхарамі нашых рэк і вадаёмаў. Найбольш вядомыя прадстаўнікі гэтых жывёл у Беларусі - бяззубкі і жамчужніцы.
І вось якраз у жамчужніцах можна знайсці жэмчуг.
Але сустракаюцца ў наш час яны вельмі-вельмі рэдка.
А хочаце даведацца, як узнікаюць перлы (жэмчуг) унутры ракавінак?

Дзіўна, але гэты працэс падобны да таго, як трапляе парушынка ў чалавечае вока. Такім чынам, у жамчужніцу трапляе нейкая пясчынка, што пачынае раздражняць мяккія тканкі малюска, і гэта прымушае яго выдзяляць перламутр. А гэтае рэчыва, ў сваю чаргу, слой за слоем ахінае тую пясчынку і паступова ператварае яе ў сапраўдную жамчужыну.
Але працэс яе стварэння цягнецца дастаткова доўга. Свайго сярэдняга памеру - дыяметра у 8 міліметраў - жамчужына можа дасягнуць толькі праз 35-40 год!
Якраз з-за прыгожых перлаў гэтая ракавінка была амаль цалкам знішчаная. Сёння яна занесена ў Чырвоную кнігу і беларускія навукоўцы працуюць над тым, каб павялічыць яе папуляцыю.
Так што, сустрэўшы жамчужніцу ў вадзе, не выкідайце яе на сушу. Няхай яна працягвае ствараць дзівосныя перлы і ачышчаць ваду і хай жыве ажно да 250 год, столькі, колькі, сапраўды, можа пражыць!

Зверху-ўніз, справа-налева кожная рыбка павінна сустрэцца толькі адзін раз



Размясці часткі карцінкі слушна



# Прыгоды на балоце

Дапамажы маленькай жабцы даскакаць да свайго сябра. Яна можа скокнуць на новы лісцік толькі, калі прыбавіць 5 ці адняць 3. Жабка можа скакаць улева, управа, уверх ці ўніз.



КАНЕЦ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 16 | 13 | 18 | 15 |
| 11 | 6 | 9 | 8 |
| 5 | 7 | 12 | 13 |
| 5 | 10 | 16 | 10 |



ПАЧАТАК

- Загадай любы дадатны лік
- Падвой яго
- Дабаў 2
- Падзялі папалам
- Дабаў 3
- Адымі лік, які ты загадаў

Твой адказ – 4!

## Прырода ў лічбах

**Самая доўгая рака ў Беларусі – 690 км. Назаві яе**

• Прыпяць • Дняпро • Нёман

**А самае глыбокае возера – 53,7м. Адгадай назву гэтага возера**

• Доўгае • Нарач • Глыбокае

**Плошча самага вялікага балотнага масіву ў нашай краіне – больш за 93 тыс га. Ці ты ведаеш яго?**

• Ельня • Дзікае • Альманы

Адказы на заданні ты знойдзеш на стр. 31





конкурс

УВАГА! УВАГА! УВАГА! УВАГА! УВАГА!

# У гэтым нумары я абвяшчаю

# СВЯТОЧНЫ КОНКУРС!

**Напішыце ў часопіс ліст на тэму**

## "Чаму я люблю Каляды ці Новы год"

**Падзяліцеся сваімі думкамі пра гэтыя святы, раскажыце, як святкуеце іх.**

Магчыма, вашыя сем'і маюць цікавыя калядныя ці навагоднія традыцыі?

Альбо ў гэтыя зімовыя святы здарыліся нейкія цуды ці запамінальныя гісторыі?

Можна нават праілюстраваць свае аповеды малюнкам!



*Аўтары самых цікавых лістоў атрымаюць кніжкі ад выдавецтваў "Кнігазбор", "Koska" "Янушкевіч".*

*Давайце раскажу вам трошкі*
*пра кніжкі-падарункі для конкурсу.*






Чытачоў казкі "Калядная каша" чакае падарожжа ў далёкую Швецыю. Ды яшчэ і напярэдадні Калядаў!

Пасвяткуем іх разам з вясёлымі шведамі і даведаемся, чаго на іх раззлаваўся гном і як гэта можна выправіць. А "ажывяць" гэтае падарожжа дзівосныя ілюстрацыі казачніка і мастака Свэна Нурдквіста.




Ад гэтага ж аўтара - кніга "Вандроўка Пэтсана". У ёй расказваецца гісторыя пра незвычайных сяброў: дзядулю Пэтсана і яго коціка Фіндуса. Аднойчы ён знайшоў на гарышчы незнаёмы і падазроны прадмет - намёт. І тады дзядулю Пэтсану прыйшлося зладзіць для свайго коціка даволі цікавую вандроўку.
І ўсё было б добра, каб іх планы не сапсавалі нахабныя куры!




Асцярожна!
У зімовым лесе можна сустрэць не Дзеда Мароза ці чараўніцу Зіму, а сапраўднага снежнага чалавека!
Пра гэта даведаецеся з аднайменнай кніжкі Эвы Сусы. Снежны чалавек нечакана трапляецца двум хлопчыкам, што заблукалі ў лесе. Ды калматы незнаёмец быў зусім нязлы, занёс малых у свой дом, дзе хлапчукоў накармілі, абагрэлі і нават уручылі падарунак.




Фэнтэзі-гісторыя "Чырвонае крэсла" пачынаецца са страшнай буры, якая зламала вялізны дуб, што на самой справе быў магічным дрэвам. З яго нарабілі розных мэблі, у тым ліку і крэсла, якое можа выконваць жаданні. Пэўна, такую дзівосную рэч хацелі б мець усе дзеці, аднак трапілася яна простаму хлопчыку Кукі.
У кнізе шмат прыгодаў, магіі, пераўвасабленняў, але, нягледзячы на захапляльны сюжэт, яна мае і глыбокую павучальную ідэю: чалавеку трэба заўсёды думаць, да чаго могуць прывесці яго жаданні.




І самая рэалістычная з усіх кніжак-падарункаў - "Ёрдзіс". Так клічуць дзяўчынку-школьніцу якая расказвае пра сваё цікавае жыццё. Але ў ім, на першы погляд, няма нічога казачнага ці экзатычнага...
Але насамрэч у Ёрдзіс ёсць усё самае важнае для дзіцяці: ласкавыя бацькі і бабуля, добрая сястра і любімы коцік, адданыя сяброўкі, вясёлы дворык каля дома і нямала таемных месцаў, дзе можна хавацца і гуляць у розныя цікавыя гульні. Вось так можна быць шчаслівым і без дарагіх цацак і гаджэтаў ;)!

*Спадзяюся, гэтыя добрыя кніжкі і вам прыйдуцца даспадобы!*

Пераможцаў будзе некалькі, падарункаў хопіць усім!

Чакаю лісты з кантактным тэлефонам
на электронны адрас: chasopis.zheuzhik@gmail.com
альбо на паштовы адрас: 247673 г. Рагачоў, а/с 1.

*Конкурс будзе працягвацца да 20 снежня.*

**А вынікі падвядзем у калядным нумары часопіса.**


Рэдакцыя Рызыкантаў
Падзея 3
КРАДЗЕЖ І ПОМСТА
Нарэшце летнія канікулы! Для рэпарцёраў Рэдакцыі рызыкантаў сёння асаблівы дзень: паход з намётамі ў лес.
TOCK TOCK
ZIPP
Як жа спякотна!
Хадзем купацца, мы гэта заслужылі
Паглядзі, там яшчэ людзі!
Вітаю! Мы група скаўтаў. А я – Дамінік, старэйшы ў групе
Мы рэпарцёры школьнай газеты. Я – Бэн, галоўны рэдактар.
Мы ставім нашы намёты вось там. Будзем добрымі суседзямі!
Праз паўгадзіны
Мы пакінем рэчы тут?
Вядома! Акрамя нас і скаўтаў тут больш нікога няма.
р.ПЦІЧ
ПЛЯСЬ
ПЛЯСЬ
YIPPIE
ВЯСЁЛАЯ ПРАХАЛОДА!
Рэдакцыя купаецца
ПЛЯСЬ
цвырк цвырк
Якая прыгожая птушка!
цвырк цвырк
Мне абавязкова трэба зрабіць яе фота!
Каб я толькі ведаў, куды тут націскаць!
КЛАЦ
КЛАЦ


ПСТРЫК
ЗУ-У-УМ
ЗУ-У-УМ
ПСТРЫК
КЛАЦ
КЛАЦ
КЛАЦ
Цім, табе трэба дапамога?
Позна! Яна ўжо паляцела. Я зусім не ўпэўнены, ці атрымаліся ў мяне фоты.
Давай паглядзім!
ЦЫК
ЦЫК
ЦЫК
ЦЫК
ЦЫК
ЦЫК
ЦЫК
Цім, баюся, што твае фоты не атрымаліся. Я - зноў купацца. Ты са мною?
СКОК
ПЛЯСЬ



Праз нейкі час...
Зараз хутка адзяваемся і ідзём смажыць мяса на вогнішчы!
Але замест сухога адзення рэпарцёраў чакаў “сюрпрыз”
ЖАХ! АДЗЕННЕ ЗНІКЛА!
Рэдакцыю абрабавалі
р.ПЦІЧ
Паглядзі!
Вось там нашы рэчы!
Але хто так нядобра з нас пажартаваў?
Гэта мы і павінны высветліць
Крыху пазней
Усе з нашай групы былі пасля абеду са мной, акрамя Леа, Ніка, Оле і Ханы
Яны самі ўзяліся збіраць дровы для вогнішча
Вы знойдзце іх каля агню
Што? Нехта скраў вашы рэчы? Гэта былі не мы!
ПФУУУ
ПФУУ
Добра, калі мы не высветлім, хто з нас так пажартаваў, мы адпомсцім усёй вашай групе.
Адпомсціце? Што вы збіраецеся рабіць?
Нічога! гэта быў толькі маленькі жарт.


Але ў цемры здараюцца жудасныя рэчы. Аднойчы мне на галаву зваліўся намёт. Таму што, нейкім дзіўным чынам, аслабелі калочкі.
А ў мяне ўначы была мыш у намёце! Спачатку яна пагрызла мой шакалад, а потым залезла ў мой спальнік!
Слушна
Але ж бывай! Добрых вам сноў!
Тым жа вечарам
Пссс! Мне трэба вам нешта расказаць! Але ж ніхто з маёй групы не павінен ведаць, што я была тут
Што здарылася?
Толькі злітуйцеся нада мной сёння ўначы! Я вельмі баюся цемры!
Я не магу выдаць вам злачынцу. Наша група дала клятву, што мы не будзем рабіць нікому шкоды. Але, можа, з вас хтосьці назіраў за намі, калі мы збіралі дровы для вогнішча? Вось вам падказка: злачынца ішоў за мной, але ж толькі не адразу за мной
Больш я нічога не магу вам сказаць. А зараз мне трэба хутка вяртацца...
КОЖНЫ ДЗЕНЬ ДОБРЫ УЧЫНАК!
Скаўт дае падказкі
Зараз мы ведаем, што гэта быў адзін з тых, хто збіраў дровы. Але ж хто?
Гмммм
ЦЫК
ЦЫК
цык
Цім, твае фоты не такія і дрэнныя, як я думала! Я ўпэўнена, яны дапамогуць нам разгадаць загадку
Пасля гэтага
РЫЗЫКАНТЫ У МАЛЮНКАХ!
Фоты выкрылі жартаўніка
І што мы зробім са злачынцам?
Ну, у мяне ёсць некалькі цудоўных ідэй....
Хто скраў адзенне? Адказ знойдзеш на старонцы 31

# At the river/Каля рэчкі



Цудоўна бавіць час каля рэчкі! Шмат цікавага можна ўбачыць і пачуць! Давай разам знойдзем усе гэтыя словы на малюнку. Пастаў лічбу каля патрэбнага слова. Let's do it together! Зробім гэта разам!

## At the river/Каля рэчкі

1. boy – хлопчык (кажы *бой*)
2. fish – рыба (кажы *фіш*)
3. water – вада (кажы *уотэ*)
4. sand – пясок (кажы *сэнд*)
5. bank – бераг (кажы *бэнк*)
6. bubble – бурбалка (кажы *бабл*)
7. fishing rod – вуда (кажы *фішін род*)
8. plant – расліна (кажы *плант*)

## Цікавы выраз

Ці трапляў ты калі-небудзь пад дождж з катоў і сабак? Я ўпэўнены, што так! У англійскай мове ёсць выраз it's raining cats and dogs. Калі перакласці па словах, гэта і азначае дождж з сабак і катоў. Але на самой справе так кажуць пра вельмі моцны дождж.

## старонка 9. Шыфроўка



## старонка 18. Словаловы – вадзянік



## старонка 8. Лабірынт



## старонка 22. Малюнак




## старонка 29. Комікс

Фотаздымкі не пакідаюць ніякіх сумневаў, хто ж злачынца: хлопчык у чырвоных шкарпэтках



## старонка 22. Судоку



## старонка 14. Рэкі




## старонка 12. Загадкі

1.Рыба 2.Завіруха 3.Хмары і снег 4.Вядро ў студні 5.Лёд 6.Лядзяш 7.Снег 8.Дождж

## старонка 12. Рэбус

Вадаспад
Лужына

## старонка 23. Палічы і размалюй




## старонка 30. Англійская мова




## старонка 14. Блытанка

1. Вада, мора, рака, лужа, неба
2. Кропля, дождж, залева, імжа, вецер.
3. Трава, суп, гарбата, кісель, квас.

## старонка 23. Пытанні

1. Дняпро 2. Доўгае 3. Альманы

## старонка 23. Палічы

Адказ: атрымаецца лічба 18.

ЖЭЎЖЫК
ЗАБАЎЛЯЛЬНЫ ЧАСОПІС ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ АД 6 ГОД | № 4 ЛІСТАПАД 2019

Анлайн-часопіс для дзяцей ад 6 год.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з сакавіка 2019 года.

Над нумарам працавалі:
Наталка Дзінкель, Марына Кузьмянкова, Волька Жарнасек.

Выказваем шчырыя падзякі:
за дапамогу ў падрыхтоўцы рубрыкі "Слоўнік дойліда" Змітру Мурашку
за чароўныя фотаздымкі – Віктару Малышчыцу
за дапамогу ў карэктуры – Алі Сідаровіч.

Пры падрыхтоўцы нумара выкарыстоўваліся матэрыялы і фотаздымкі з сайтаў pinterest.com; pixabay. com; freepik. com, museims.by.
Пераклад комікса з часопіса на нямецкай мове: Krimi-Comics zum Lesen u. Mitraten ад GEOlino

Калі раптам у часлпісе не падпісаны Вашы фотаздымкі, паведаміце ў рэдакцыю - абавязкова падправім гэта.

Мае дарагія чытачы, я буду вельмі рады вашым лістам.
Лістуйце мне на паштовы адрас: 247673 г. Рагачоў, а/с 1
альбо на электронны адрас chasopis.zheuzhik@gmail.com
Таксама мяне можна знайсці ў Фэйсбуку: https://www.facebook.com/chasopis.zheuzhik

Да новых сустрэч!

